№ 65 (3908)

22 жніўня 2014 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

# Народная Воля

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выходзі, мой народ, грамадою...*

*Якуб КОЛАС*

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

*Аформіць падпіску на газету на верасень — снежань можна да 28 жніўня.*

**ЖНІВО-2014**

## Уборачная амаль закончана…

Больш як 10 мільёнаў тон збожжа з улікам кукурузы плануюць атрымаць беларускія аграрыі за сёлетняе жніво. Аб гэтым паведаміў намеснік міністра сельскай гаспадаркі і харчавання **Уладзімір Гракун.**

«Сёння можна казаць, што ўборачная кампанія ў рэспубліцы завершана: засталося ўбраць менш як 15 тысяч гектараў плошчаў у Віцебскай вобласці, усе астатнія рэгіёны завяршылі жніво, — адзначыў намеснік міністра. — Намалочана 9 мільёнаў 167 тысяч тон збожжа (без кукурузы на зерне і крупяных)». З улікам кукурузы ўраджай перасягне 10 мільёнаў тон. *«У гэтым годзе мы разлічвалі атрымаць амаль 1,5 мільёна тон зерня кукурузы, аднак з-за ўмоў надвор'я, у прыватнасці з-за спёкі, паказчыкі хутчэй за ўсё будуць крыху ніжэйшымі,* — адзначыў Уладзімір Гракун. — *У любым выпадку менш за адзін мільён тон мы не атрымаем».* Намеснік міністра падкрэсліў, што ў гэтым годзе гаспадаркі рэспублікі атрымалі не толькі вялікі, але і якасны ўраджай збожжавых і зернебабовых культур.

**КАДРЫ**

## Лукашэнка прызначыў Якабсона сваім памочнікам



Без пасады былы кіраўнік Камітэта дзяржкантролю быў менш за тыдзень. Аляксандр Лукашэнка прызначыў яго сваім памочнікам — галоўным інспектарам па Мінску.

Аляксандр Лукашэнка звярнуў увагу на тое, што спецыяльна запрасіў Аляксандра Якабсона на сустрэчу, хаця можна было вырашыць гэтае кадравае пытанне, падпісаўшы адпаведны ўказ. *«Я раблю гэта наўмысна, каб людзі не падумалі, што ў Якабсона нейкія праблемы з прэзідэнтам або дзяржавай»,* — сказаў Аляксандр Лукашэнка.

Лукашэнка мяркуе, што Аляксандр Якабсон застаецца дзяржаўным чалавекам, і падкрэсліў, што не хацеў бы страціць такога спецыяліста. *«Дзяржаве вельмі важныя мазгі і вопыт, якія сканцэнтраваны ў такіх людзей»,* — адзначыў беларускі лідар.

У Мінску самая вялікая камунальная гаспадарка, канстатаваў Аляксандр Лукашэнка. *«Вы займаліся гэтымі праблемамі. Вы сам прамысловец. Мінск — гэта велізарная прамысловасць. Вы дасведчаны чалавек, і гэта вельмі важна для інспектара,* — сказаў кіраўнік дзяржавы. — *Ваш досвед патрэбны тут».*

**РЭЛІКВІЯ**

## 400-гадовы габелен рэстаўрыравалі ў Літве

Мастацкі музей Літвы адрэстаўрыраваў самы рарытэтны і дарагі габелен Беларусі «Трыумф Цэзара». Пра гэта паведамілі ў амбасадзе Беларусі ў Вільнюсе.

*«Работы вяліся з кастрычніка 2013 года. Габелену — больш за 400 гадоў. Састаў: воўна і шоўк»,* — распавялі ў амбасадзе. Габелен быў сплецены брусельскімі майстрамі ў эпоху Рэнесансу. Ён створаны на ўзор прац італьянскага мастака XV стагоддзя **Андрэа Мантэны**.

Габелен раней ужо рэканструіравалі. Цяпер пасля свайго чарговага «адраджэння» рэліквія зойме годнае месца ў Тэатральнай зале Нясвіжскага палаца Радзівілаў.

**З ЮБІЛЕЕМ!**

## Беларусі не хапае вас, Вячаслаў Сямёнавіч…

У Беларусі ёсць Нацыянальная акадэмія навук.

У гэтыя дні яна магла б урачыста адзначаць юбілей такога сусветнамаштабнага вучонага-філосафа, як **Вячаслаў Сямёнавіч СЦЁПІН**.

На жаль, цяпер сваім геніем яго лічыць Расія. Згубіла Беларусь вялікага мудраца яшчэ ў канцы васьмідзясятых гадоў.

...Вячаслаў Сцёпін з тых "шасцідзясятнікаў", якім не даваў спакою бунтарскі дух, якія марылі пра тое, як ашчаслівіць грамадства, надаць сацыялізму *«человеческое лицо"*. Менавіта такое гарачае імкненне прывяло да выключэння Сцёпіна з шэрагаў Камуністычнай партыі. А ў той час гэта было раўназначна прыгавору аб забароне на прафесію.

Мінуў не адзін дзясятак гадоў, а Вячаслава Сямёнавіча з захапленнем узгадваюць былыя студэнты Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта. І не толькі студэнты. Будучы загадчыкам кафедры філасофіі гуманітарных факультэтаў, ён карыстаўся асаблівай павагай як у моладзі, так і ў элітным асяроддзі навукоўцаў, стаў кумірам для тых, каго хвалявалі праблемы грамадства, краіны.

Магчыма, падтрымка бліжэйшых сяброў, прагрэсіўнага студэнцтва і дапамагла апальнаму вучонаму выжыць у тыя цяжкія гады.

Яго час прабіў, калі ў СССР наступіла перабудовачная эпоха. Вячаслаў Сцёпін выбіраецца дырэктарам Інстытута гісторыі прыродазнаўства і тэхнікі АН СССР. А літаральна праз год ён узначальвае вядучы акадэмічны цэнтр па грамадскіх навуках — Інстытут філасофіі Акадэміі навук СССР.

Вячаслаў Сямёнавіч Сцёпін — акадэмік, лаўрэат Дзяржпрэміі Расіі, ганаровы доктар многіх вядучых універсітэтаў свету, замежны член старэйшых нацыянальных акадэмій шэрагу краін.

Сёння Беларусі не хапае такіх знакавых вучоных, як Вячаслаў Сямёнавіч Сцёпін.

З 80-годдзем Вас, геній! Моцнага здароўя, навуковага плёну ў далейшым!

**УЗГАДАЕМ!**

## "Белая маланка" адзначыла юбілей

*Учора споўнілася роўна 10 гадоў з дня велізарнейшага трыумфу беларускай лёгкай атлетыкі. На Алімпіядзе-2004 у Афінах беларуска Юлія Несцярэнка выйграла золата на дыстанцыі 100 метраў.*

Тады, 10 гадоў назад, фанфары не сціхалі доўга. Несцярэнка называлі Белай маланкай, тузалі з аднаго мерапрыемства на другое, яе твар не сыходзіў з тэлеэкранаў і білбордаў...

*"Я нікому не пажадала б такога цяжару славы,* — прызнавалася ў той час спартсменка нашай газеце. — *У мяне хутка будзе комплекс на людзей і пытанні кшталту: "Што вы адчувалі пасля пераможнага фінішу?" Я даю на вуліцы аўтографы, фатаграфуюся, знаходзяцца дзівакі, якія нават хочуць мяне памацаць. Вы не ўяўляеце, наколькі гэта вымотвае! Гэта вельмі складана. Складаней, напэўна, чым стаць алімпійскай чэмпіёнкай".*

Пасля трыумфу для Юліі надышлі выпрабаванні. Высокі вынік паўтарыць не ўдалося, а "добразычліўцаў" хапала. Сама яна прызнавалася, што гэта быў вельмі цяжкі час для яе, а пасля траўмы напярэдадні Гульняў-2012, якая перакрэсліла ўсе спадзяванні на Алімпіяду, спартсменка нават месяц правяла ў манастыры.

Зрэшты, з песні слоў не выкінеш — гістарычны вынік Юліі Несцярэнка назаўсёды застанецца ў нашай памяці і ў летапісе сусветнай лёгкай атлетыкі. Гэтая была вельмі прыгожая перамога! Такая ж прыгожая, як і сама Юля...

**Алесь СІВЫ.**

**ПА-ЗА ГУЛЬНЁЙ**

## Пашпартызацыя

Тэма не новая, але па-ранейшаму актуальная — у беларускі спорт працягваюць плыць рэкі легіянераў. Не заўсёды даплываюць, але тэндэнцыя назіраецца. Вось толькі некалькі апошніх фактаў.

Не так даўно загаварылі пра тое, што жаночую зборную Беларусі па біятлоне можа папоўніць расіянка **Ульяна Дзянісава.** У склад расійскай каманды яна не патрапіла з-за ўзросту. *"Усё ж такі трэба разумець, што ёй 31 год*, — развёў рукамі старшы трэнер расійскіх біятланістак Уладзімір Каралькевіч. *— Трэба працаваць на перспектыву. Калі б спартсменка ў гэтым узросце на самай справе вызначалася на фоне астатніх, то можна было б аб нечым думаць і казаць".*

Беларускі бок спачатку згадзіўся на прагляд расіянкі, а затым узяў паўзу, і на збор Дзянісаву трэнеры не ўзялі. Думаюць.

Тым часам старшы трэнер мужчынскай зборнай Беларусі па біятлоне Алег Рыжанкоў заявіў днямі, што ў беларускую каманду можа перайсці расіянін **Міхаіл Баярскіх.** Пакуль што пытанне канчаткова не вырашана. Таксама думаюць.

Мінскі хакейны клуб "Дынама" выступіў з ініцыятывай, каб амерыканец **Нік Бэйлен,** які падпісаў кантракт са сталічнай камандай, прыняў беларускае грамадзянства, каб у перспектыве выступаць за нацыянальную каманду, за якую ўжо, дарэчы, гуляюць два канадскія беларусы **Плат** і **Лаланд.**

Пры гэтым у клубе разумеюць, што масавая пашпартызацыя, — гэта не выхад для беларускага спорту. Прызнаюць, што тых жа хакеістаў у Беларусь завозяць партыямі. Пяць гадоў таму ў краіну прыехалі каля 20 расійскіх хакеістаў, за апошні час легіянерам з Расіі выдалі каля 150 беларускіх пашпартоў! Праўда, большасць з гэтых "зорак" знікае з поля зроку так ціха, як і прыйшлі.

Дык каму патрэбна такая пашпартызацыя?

Хтосьці скажа: "Ізноў завялі старую, як свет, песню". Але, як мне падаецца, калі яе не заводзіць, то ў хуткім часе ў Беларусі наогул могуць адмовіцца ад сваіх дзіцячых спартыўных школ, ад сваіх выхаванцаў, уласных дзіцячых трэнераў. Навошта яны, калі ў любы час можна ўзяць дзеля дасягнення нейкай лакальнай вышыні легіянераў? І ўжо гэтымі вынікамі можна закрыць усе хібы дзіцяча-юнацкага спорту, якія нікуды не знікалі.

Дарэчы, памочнік прэзідэнта па пытаннях фізкультуры і спорту **Максім Рыжанкоў** заявіў практычна тое самае: *"Калі мы будзем з года ў год жыць з думкай, што можам развіваць хакей, насычаючы яго легіянерамі, мы ніколі не падымем гэты від спорту. Таварышы, час павярнуцца тварам да дзіцяча-юнацкага спорту, да падрастаючага пакалення! Разумееце, калі ў клубе лічаць, што могуць набраць легіянераў, яны не задумваюцца пра заўтрашні дзень. Не звяртаюць увагі на рэзерв, які расце ў іх жа школах. У выніку атрымліваецца, што 14—15-гадовыя хлопцы з'язджаюць з Беларусі, паколькі не патрэбны тут".*

Гэта было сказана ў мінулым годзе. А ў гэтым мы збіраемся даваць беларускі пашпарт амерыканскаму хакеісту.

І я не маю нічога супраць таго ж амерыканца Бэйлена, канадца Плата, бразільца Брэсана ці расіянкі Скардзіна, якія сабраліся выступаць за Беларусь ці ўжо выступаюць. Толькі неяк крыўдна за беларусаў. Не можам падрыхтаваць сваіх? Дык давайце разам біць у званы! Штодзень падымаць праблемы дзіцячага спорту. Думаць, як іх вырашыць. Выводзіць на першы план гэтыя праблемы, а не пляскаць у далоні пасля чарговага медаля.

Рэкі легіянераў, безумоўна, не перасохуць. Але чэрпаць сілы трэба са сваёй крыніцы.

**Алесь СІВЫ.**

**БЛИЦ**

## Прекратится ли война на юге-востоке Украины после встречи Путина и Порошенко в Минске?

Как сообщили информационные агентства, **Владимир Путин** и **Петр Порошенко** встретятся в столице Беларуси 26 августа. Встреча на высоком уровне пройдет в формате Украина — Европейский Союз — Таможенный союз. В ней примут участие и президенты: **Александр Лукашенко** и **Нурсултан Назарбаев.** Будет обсуждаться «катастрофическая гуманитарная ситуация на востоке Украины», заявил во вторник пресс-секретарь российского президента **Дмитрий Песков.**

Насколько эффективны будут переговоры на высшем уровне? И в конце концов, смогут ли они остановить кровопролитие, войну на юго-востоке Украины?

### Владимир Некляев, лидер кампании «Говори правду!»:

— Нет, война не прекратится. Ни одна из сторон на сегодняшний день к выяснению отношений несиловыми методами не готова. Будто Смерть еще сама не наелась и их не накормила...

### Раиса Боровикова, поэтесса:

— Трудно ответить. Приятно, что в миротворцы выбрана Беларусь. То, что происходит в Украине, фантастично, у меня волосы дыбом. Но вопрос войны и мира надо решать только путем переговоров. Он так и решится, но не сразу... Есть большая обида, есть вещи непростительные — причем с обеих сторон. Столько смертей, беженцев! А психология человека так уж устроена, что простить сразу он не может. А вспомните, с чего все начиналось? С вопроса о языке! Мы ходим по тонкому льду — обществу об этом надо помнить всегда.

### Владимир Яворский, замдиректора туристического агентства «Бонус»:

— Нет, встреча на высшем уровне войну не остановит. Вы ж понимаете, олигархи воюют друг против друга. А народ? Кто когда жалел нас, простых людей? Вы же видите, что в мире творится. Но за войну со своим народом Порошенко, Яценюка и остальных надо судить, по-моему, как военных преступников.

### Андрей Русинов, архитектор архитектурного бюро "Юнилайнпроект":

— Я надеюсь! Я приветствую все шаги по прекращению военного конфликта. Здесь любые усилия не лишние, любые попытки договориться друг с другом не бесполезны.

### Анатолий Тарас, ученый секретарь общественного института Белорусской истории и культуры:

— Всякая война когда-нибудь заканчивается, так что шанс есть. У господина Путина и его команды задуманная комбинация явно не получилась. И международные санкции против России действуют. И украинцы близки к победе. А что такое любой договор? Это торг, дело во многом закулисное. Сторгуются ли? Повторяю, шанс есть.

**Елена МОЛОЧКО.**

**УЧОРА**

## Часовы Паверaны ў справах ЗША ў Беларусі Скот Роланд наведаў "Народную Волю"



Што для дыпламата важна?

Бліжэй пазнаёміцца з краінай, у якую ён прыбыў для выканання прафесійных абавязкаў.

І прыемна, што Часовы Паверaны ў справах ЗША **Скот Роланд** учора знайшоў час, каб наведаць рэдакцыю газеты "Народная Воля". Разам з ім да журналістаў завітала першы сакратар амбасады Злучаных Штатаў Амерыкі ў Беларусі **Робін Соламан.**

Галоўны рэдактар газеты "Народная Воля" **Іосіф Сярэдзіч** азнаёміў гасцей з гісторыяй выдання, расказаў пра асаблівасці творчай працы калектыву рэдакцыі, адказаў на пытанні дыпламатаў. Гутарку падтрымлівалі намеснікі галоўнага рэдактара **Марыя Эйсмант** і **Марына Коктыш,** аглядальнікі **Алена Малочка, Алесь Сівы.**

**На фота:** *Часовы Паверaны ў справах ЗША ў Беларусі* ***Скот Роланд*** *і першы сакратар амбасады Злучаных Штатаў Амерыкі ў Беларусі* ***Робін Соламан*** *у рэдакцыі газеты "Народная Воля".*

**З НАГОДЫ**

## Як сустрэнуць лідараў Расіі і Украіны беларускія партыі і грамадскія рухі?

*Зладжванне акцый, пікетаў, флэш-мобаў падчас сустрэч афіцыйных асоб featureрознага ўзроўню — звычайная практыка ва ўсім свеце.*

*"Народная Воля" вырашыла пацікавіцца ў лідараў палітычных партый і рухаў нашай краіны, ці будуць іх паплечнікі нейкім чынам рэагаваць на сустрэчы Уладзіміра Пуціна і Пятра Парашэнкі ў Мінску.*

### Аляксей ЯНУКЕВІЧ, лідар партыі Беларускі народны фронт:

— Ніякіх пікетаў наша партыя праводзіць не будзе, бо няма ніякага сэнсу "падстаўляць" людзей на суткі. Што да самой падзеі, то добра ўжо тое, што Беларусь прызнаецца нейтральнай краінай. З боку Захаду дагэтуль да Беларусі захоўваецца стаўленне як да самастойнага суб'екта міжнароднай палітыкі, а не да зоны ўплыву Расійскай Федэрацыі. Да таго ж, калі Пуцін прыедзе ў Беларусь не для таго, каб урачыста адкрыць чарговы музей, а для сустрэчы з прадстаўнікамі Еўрапейскага Саюза і Украіны на чужой тэрыторыі, то гэта станоўча.

### Анатоль ЛЯБЕДЗЬКА, лідар Аб'яднанай грамадзянскай партыі:

— Наша партыя адрэагуе сваёй палітычнай пазіцыяй. Мы выкажам сваё стаўленне да пераможнага працэсу, да нашых чаканняў. У якім фармаце? Гэта можа быць сумесная заява сяброў партыі, ці заява ад палітрады, ці ад лідара. Я не буду раіць дэманстраваць асабісты гераізм, выходзячы на пікет. Які ў гэтым сэнс? Чалавека ізалююць ад сям'і, ад працы, ад нейкіх планаў на 15 сутак. Мужных людзей у нас шмат і кожны вырашае асабіста. Я ж на мыліцах не збіраюся ісці да Пуціна.

### Аляксандр МІЛІНКЕВІЧ, лідар руху "За свабоду":

— Калі ад сустрэчы будзе хаця б мінімальны эфект — паляпшэнне сітуацыі ва Украіне і спыненне расійскай агрэсіі, то гэта будзе поспех. Стаяць з плакатамі няма сэнсу, трэба дапамагаць Украіне.

### Сяргей ВАЗЬНЯК, актывіст кампаніі "Гавары праўду!":

— Для правядзення санкцыянаванага пікета патрэбна не пазней як за два тыдні звярнуцца па дазвол у выканкам. Такім чынам, да 26 жніўня гэта не атрымаецца. А на несанкцыянаваны пікет мы не пойдзем.

### Ірына ВЕШТАРД, лідар сацыял-дэмакратычнай партыі "Народная Грамада":

— Магчыма, будзе нейкая сумесная заява ад "сямёркі". Але наша партыя ніякіх вулічных акцый не плануе. Сама ідэя сустрэчы не так даўно з'явілася і ніхто нават дакладна не ведаў пра яе фармат. Мы нават спадзяёмся, што сустрэча прынясе нейкую карысць для ўкраінскага народа.

**ЖАХ!**

## Сеў за руль без правоў і загінуў

У Лельчыцкім раёне адбылося трагічнае ДТЗ з удзелам двух легкавых аўтамабіляў. «Фольксваген Гольф» выехаў на сустрэчную паласу і лоб у лоб сутыкнуўся з легкавушкай «Додж Караван».

— У «Доджы» знаходзіліся кіроўца і 4 пасажыры, якія да прыбыцця падраздзяленняў самастойна выбраліся з аўтамабіля, і з траўмамі рознай ступені цяжкасці шпіталізаваны. Ратавальнікі пры дапамозе гідраўлічнага інструмента з аўтамабіля «Фольксваген» дэблакіравалі дваіх загінуўшых: 23-гадовага вадзіцеля і 19-гадовую пасажырку, — паведаміў журналістам прэс-сакратар Гомельскага абласнога ўпраўлення МНС Руслан Габрылёў.

У кіроўцы, які справакаваў аварыю і загінуў, не было правоў.

**ЧУЛІ?**

## Студэнты заменяць педагогаў

Менавіта так будзе вырашацца праблема няхваткі педагогаў ва ўстановах адукацыі Мінска. Да работы будуць прыцягвацца студэнты выпускных курсаў педагагічнага ўніверсітэта, паведаміла начальнік аддзела дашкольнай, агульнай сярэдняй і спецыяльнай адукацыі камітэта па адукацыі Мінгарвыканкама **Марына Юркевіч**.

**БЫВАЕТ ЖЕ...**

## У премьер-министра Бельгии украли ноутбук с секретными данными

Полиция сообщила, что на жестком диске украденного лэптопа хранились важные документы, касающиеся внутренней политики Бельгии. По данным местной прессы, в компьютере также могли содержаться конфиденциальные данные о королевской семье.

Ноутбук из машины премьера похитили, когда он находился в спортзале. Водитель в это время также отлучился — как он позже объяснил, хотел купить что-нибудь в ближайшей книжной лавке. Воры взломали автомобиль и забрали компьютер, который политик неосмотрительно оставил в багажнике.

Народная Воля http://www.nv-online.info 22 ЖНІЎНЯ 2014 г.

ГУЧНАЯ СПРАВА

# Ганну Шарэйка абвінавачваюць у карупцыі

*Сталі вядомы падрабязнасці крымінальнай справы члена Савета Рэспублікі Нацыянальнага сходу, дырэктара Віцебскай бройлернай птушкафабрыкі Ганны Шарэйка.*



Яшчэ ў чэрвені Генпракуратура Беларусі распачала крымінальную справу адносна шэрагу службовых асоб Віцебскай бройлернай птушкафабрыкі па фактах злоўжывання службовымі паўнамоцтвамі. Шэсць чалавек былі затрыманы. 15 жніўня іх шэрагі "папоўніла" дырэктар прадпрыемства, дэпутат Верхняй палаты беларускага парламента Ганна Шарэйка. Яе пазбавілі парламенцкай недатыкальнасці і ўзялі пад варту.

Як паведаміла намеснік начальніка аддзела інфармацыі і сувязяў з грамадскасцю Генпракуратуры РБ **Лілія Дзенісенка,** устаноўлена, што кіраўнікі птушкафабрыкі цягам некалькіх гадоў у складзе конкурснай камісіі прымалі рашэнні аб закупках кармоў і кармавых дабавак у замежнай камерцыйнай структуры па завышаных цэнах. Гэта нанесла птушкафабрыцы шкоду ў асабліва буйным памеры — больш за 4 млрд рублёў.

Паводле інфармацыі Генпракуратуры, гендырэктар Віцебскай бройлернай птушкафабрыкі Ганна Шарэйка давала сябрам конкурснай камісіі незаконныя ўказанні, каб тыя прызнавалі пераможцам конкурсу адну з замежных кампаній, з уладальнікам якой яна сябравала. Таксама было ўстаноўлена, што ў выніку незаконных дзеянняў Шарэйка ў кароткія тэрміны пабудавала дарагі катэдж плошчай 240 кв.м, набыла дарагую бытавую і электронную тэхніку, «забяспечыла сабе матэрыяльны дабрабыт у будучыні».

14 жніўня Ганну Шарэйка прызналі падазронай у здзяйсненні крымінальнага злачынства — злоўжыванне службовымі паўнамоцтвамі. Па гэтым артыкуле ёй пагражае пакаранне ў выглядзе пазбаўлення волі на тэрмін ад 3 да 10 гадоў з канфіскацыяй або без канфіскацыі маёмасці.

Ганне Шарэйка 54 гады. Кар'еру на Віцебскай бройлернай птушкафабрыцы яна пачала з пасады апаратара. Скончыла Віцебскі ветэрынарны інстытут, Усерасійскі навукова-даследчы і тэхналагічны інстытут птушкагадоўлі. Кандыдат сельскагаспадарчых навук. Віцебская бройлерная фабрыка апошнім часам — гэта вялікая вытворчасць, якая размяшчаецца ў розных месцах. Фабрыцы належыць брэнд "Ганна". Жыхары горада расказвалі журналістам, што на фабрыцы добрыя заробкі, яе працаўнікі не скардзяцца на ўмовы працы. *"Фабрыка стала знакавым, пазнавальным брэндам,* — расказвалі віцябчане. — *Прадукцыя была разнастайнай. Яны стварылі ўласную сетку рознічнага гандлю, кавярні, рэстарацыю, месца адпачынку. Густоўныя, як прынята ў нас казаць, еўрапейскага тыпу месцы. Гэта была і ініцыятыва Ганны Васільеўны. На фабрыцы імкнуцца да культурнага адпачынку работнікаў».*

**Ігар ЗАЛЕСКІ.**

ВЕДАЙ НАШЫХ!

## *Прыплылі да медалёў*

*Ужо два медалі заваявалі беларусы на чэмпіянаце Еўропы па водных відах спорту, які праходзіць у Берліне.*

Спачатку парадаваў землякоў **Яўген Цуркін** *(на фота)*, які стаў першым у фінальным заплыве на 50 метраў. Цікава, што француз Флоран Манаду паказаў абсалютна аднолькавы час з беларускім спартсменам, а таму залатыя медалі выдалі адразу абодвум плыўцам.

Дарэчы, гэта ўсяго трэцяе суверэннае мужчынскае золата беларусаў на чэмпіянатах Еўропы ў 50-метровых басейнах. Першыя два Аляксандр Гукаў заваяваў аж сем гадоў таму.

А беларускі дуэт **Вадзім Каптур і Яўген Каралёў** стаў сярэбраным у сінхронных скачках у ваду з вышкі. Гэта безумоўны прагрэс нашых спартсменаў, бо 27-гадовы Каптур і 23-гадовы Каралёў разам выступаюць усяго другі год. У 2013 годзе на чэмпіянаце свету ў Барселоне яны занялі 12-е месца, а на еўрапейскім першынстве — шостае.

Будзем спадзявацца, што медалі на гэтым чэмпіянаце ў беларусаў яшчэ будуць. І асноўныя спадзяванні на нашу "залатую рыбку" — **Аляксандру Герасіменю.**

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

НЕЗАВИСИМАЯ ЭКСПЕРТИЗА

*Борис ЖЕЛИБА, доктор экономических наук, профессор*

# Дешевые деньги

Если верить статистике, то номинальная средняя месячная зарплата белорусов растет, и на сегодня в долларовом эквиваленте она достигла 611 «зеленых». В декабре предвыборного 2010 года ее долларовый эквивалент составлял 530 единиц. Казалось бы, некоторый прогресс есть. Но в каком соотношении? Если менять всю зарплату на доллары и ехать на отдых, в командировку с шоппингом в долларовую (или евро) зону, где цены повышаются в среднем на 1—2% в год, то выигрыш будет более ощутимым. Ну а в родной Беларуси на внутреннем рынке мы богаче не стали. Скорее наоборот.

Обратимся к некоторым данным, которые отражают покупательную способность нашей средней зарплаты в декабре 2010 года и нынешним летом. Так, на свою зарплату тогда белорус мог купить 78 килограммов свинины, нынче — только 60. Хлеба, соответственно, 772 килограмма и 623, молока — 944 литра и 753, картофеля — 907 и 705 килограммов. Исходя из этих цифр, можно оценить наши натуральные потери в продуктах никак не меньше, чем на четверть. Такие же потери в промтоварах за этот период не меньше 30—40%, на услугах они еще больше.

О том, как изменилась покупательная способность доллара за указанный срок, можно судить по таким показателям: за 100 долларов в декабре 2010 года можно было приобрести 15,9 килограмма свинины, этим летом — лишь 9,8, хлеба соответственно — 171 и 101 килограмм, молока — 195 и 122 литра, картофеля — 208 и 114 килограммов. За 100 долларов можно было съездить по железной дороге в Москву тогда 11 раз, сейчас — 5 раз. Как видим, доллар также сдал и по основным продовольственным позициям, и по промышленным товарам, и по услугам.

Рублевая инфляция с начала текущего года составила 11,1% (при годовом задании 11%). Курс доллара в начале года был 9520 рублей, сегодня — 10.390 рублей. Иначе говоря, девальвация белорусского рубля отмечена за семь месяцев в размере 9,1%, что меньше его инфляции. Ослабление рубля к евро с начала года — 6%. Если бы темпы инфляции рубля соответствовали темпам его девальвации, долларовые эквиваленты цен оставались бы практически неизменными, как и покупательная способность доллара.

Можно констатировать, что с конца 2010-го по август 2014 года цены на белорусские товары и услуги росли значительно быстрее зарплаты населения, и на свою рекордную (по меркам правительства) «зряплату» мы можем купить товаров и услуг меньше, чем почти четыре года назад. А за счет опережения инфляции динамики обесценения белорусского рубля к мировым валютам цены внутреннего рынка в долларовом эквиваленте постоянно дорожают. Это свидетельство также того, что денежные власти искусственно сдерживают темпы девальвации рубля, чтобы удержать рублевые вклады в банковской системе, которые составляют уже не больше трети. Удержание рубля происходит главным образом за счет валютных интервенций Нацбанка на биржевых торгах, которые осуществляются за счет валютных резервов государства, а пополняются резервы путем бесконечных внешних заимствований.

Как видим, с такой нехитрой схемой мы, белорусы, не становимся богаче и вряд ли станем. А в долги будем залазить все больше и больше. В пересчете на годовые показатели инфляция сегодня не меньше 20%. Это доказывает, что власти продолжают политику накачивания экономики дешевыми деньгами, чтобы хоть как-то обеспечить рост ВВП. А по другому они и не умеют. Так, с начала года объем наличных денег увеличился на 10,8%, вся рублевая денежная масса — на 13,2%. Инфляционный налог, который в том или ином размере платит каждый занятый в экономике белорус, «съедает» рост его реальной зарплаты, который Белстат умудряется каждый раз находить. Несмотря на то, что с начала года в экономике Беларуси не созданы макроэкономические условия для снижения банковских процентов, Нацбанк в последние месяцы упорно снижает ставку рефинансирования, еще более «размягчая» свою денежно-кредитную политику. Однако пока удешевление банковских кредитов, а это одна из главных целей правительства, не дает должного эффекта. Последний замер роста ВВП в годовом исчислении дал лишь 1,2%.

Макроэкономическая стабильность, что подразумевает прежде всего низкую инфляцию, вновь под давлением правительства приносится в жертву ростовым показателям, которые все равно не желают особенно расти, даже оставаясь директивными. Но что народу от того же роста ВВП? Будь он 1,2% или 2, или 5%? Кстати, в памятном 2011 году рост ВВП был 5,3%, и была полная потеря финансовой стабильности, которая вылилась в двухразовую инфляцию и трехразовую девальвацию рубля. Это ощутил на себе каждый человек.

Никуда не исчезли факторы, которые потенциально подрывают финансовую стабильность экономики страны. Это триллионные запасы готовой продукции на складах, которые остаются на уровне 81% среднемесячного выпуска. Это отрицательное сальдо платежного баланса в целом, которое составило по итогам января—мая минус 1,3 млрд долларов (против 0,5 млрд за такой же период 2013 года), и отрицательное сальдо текущего счета платежного баланса, в основе которого внешнеторговый баланс с учетом выплаченных пошлин России за нефтепродукты. Последнее составило 2,7 млрд долларов. Эти факторы обусловливают превышение спроса на валюту над ее предложением на валютной бирже со всеми вытекающими последствиями.

В связи с последними экономическими санкциями России против Запада правительство Беларуси живет надеждами увеличить валютную выручку за счет дополнительного экспорта сельхозпродукции восточному соседу. Уже подсчитываются миллиарды долларов и прикидываются варианты иных схем увеличения поставок в Россию, вплоть до контрабандных. Однако необоснованный экспорт может оголить внутренний продовольственный рынок Беларуси с повышением цен на нем, что даст дополнительный толчок все той же инфляции. Не надо забывать, что под влиянием западных экономических санкций, которые ощущаются на экономике России с нарастающей силой, с учетом ее непомерных затрат на ведение войны с Украиной и на создание инфраструктуры Крыма, российский рынок скукожится и не сможет покупать белорусский промышленный экспорт в прежних объемах. В итоге продовольственные экспортные плюсы запросто перекроются промышленными экспортными минусами.

ФОТАФАКТ

# Смачныя кавуны



Днямі прэс-служба прэзідэнта распаўсюдзіла інфармацыю пра тое, што 20 жніўня Аляксандр Лукашэнка азнаёміўся са станам бахчавых культур і гародніны на полі ДУ «Дыпсэрвіс» Кіраўніцтва справамі прэзідэнта на тэрыторыі афіцыйнай рэзідэнцыі прэзідэнта «Дразды». Кіраўнік дзяржавы прыняў удзел ва ўборцы ўраджаю.

Афіцыйнае паведамленне суправаджалася відэаролікам і фатаграфіямі. На адной з іх разам з Аляксандрам і Мікалаем Лукашэнкамі кавуны «інспектуюць» асабісты доктар прэзідэнта Святлана Канашэнка і намеснік старшыні Федэрацыі тэніса Сяргей Цяцерын — людзі, якія часта суправаджаюць Аляксандра Рыгоравіча ў неафіцыйных мерапрыемствах.

**Вольга ГРЫНЯВІЦКАЯ.**

РЕГИСТРАТУРА

## *Консультации врачей в госклиниках подорожали почти в 2 раза*

Как известно, недавно Совет министров своим постановлением отменил государственное регулирование цен на платные консультации врачей-специалистов в государственных клиниках.

И вот новые расценки уже появились на сайтах многих медучреждений столицы. Консультации врачей существенно выросли в цене и теперь практически ни в чем не уступают ценам частных центров. Например, если раньше пациент мог на платной основе получить в государственной клинике консультацию невролога или гинеколога, который имел степень кандидата наук за 115—116 тысяч, то сейчас вынужден отдать 240 тысяч! Практически столько же стоит сегодня прием у такого же специалиста в частном медицинском центре.

Как изменились тарифы на платные услуги врачей-специалистов, хорошо видно на примере одной из минских клиник. Судите сами:

| Наименование платной медицинской услуги | Первичная консультация до 1.08.2014 г. (стоимость в руб.) | Первичная консультация с 1.08.2014 г. (стоимость в руб.) |
|---|---|---|
| Консультация врача-специалиста второй квалификационной категории терапевтического профиля | 67.000 | 100.000 |
| Консультация врача-специалиста второй квалификационной категории хирургического профиля | 67.000 | 110.000 |
| Консультация врача-специалиста первой квалификационной категории терапевтического профиля | 70.000 | 110.000 |
| Консультация врача-специалиста первой квалификационной категории хирургического профиля | 70.000 | 120.000 |
| Консультация врача-специалиста высшей квалификационной категории терапевтического профиля | 72.000 | 120.000 |
| Консультация врача-специалиста высшей квалификационной категории хирургического профиля | 72.000 | 120.000 |
| Консультация врача-специалиста, кандидата медицинских наук терапевтического профиля | 116.300 | 240.000 |
| Консультация врача-специалиста, кандидата медицинских наук хирургического профиля | 116.850 | 260.000 |
| Консультация доцента, кандидата медицинских наук хирургического профиля | 127.550 | 280.000 |

**Мария ЭЙСМОНТ.**

СУД

## *Што "свеціць" Уладзіміру Мальцаву?*

Былога гендырэктара «Барысаўдрэва» **Уладзіміра Мальцава** будуць судзіць у Мінскім аблсудзе. Яго вінавацяць у злоўжыванні службовымі паўнамоцтвамі падчас выканання дзяржаўнай праграмы па мадэрнізацыі прадпрыемства. Паведамляецца, што гэта пацягнула цяжкія наступствы ў выглядзе нанясення ўрону ў асабліва буйным памеры на суму звыш 18 мільярдаў рублёў. Таксама была нанесена істотная шкода дзяржаўным інтарэсам у выглядзе зрыву тэрмінаў па рэалізацыі дзяржаўнай праграмы па мадэрнізацыі ААТ «Барысаўдрэў».

Падчас расследавання крымінальнай справы накладзены арышт на маёмасць Мальцава на суму звыш 400 мільёнаў рублёў. Абвінавачаны з 13 сакавіка знаходзіцца пад вартай.

МОДЕРНИЗАЦИЯ

# Каких реформ ждет от белорусских властей бизнес-сообщество?

***Что сегодня нужно белорусскому бизнесу от государства? Насколько власти открыты к диалогу с бизнес-союзами? Какие аргументы работают и вправе ли предприниматели бастовать? На эти и другие вопросы отвечает Георгий БАДЕЙ, экс-глава трех министерств, а ныне — почетный председатель правления Бизнес-союза предпринимателей и нанимателей имени Кунявского.***

**— Георгий Петрович, каких реформ ждет сегодня от власти белорусское бизнес-сообщество?**

— Это и простой, и сложный вопрос. Мне кажется, что бизнес-сообщество уже ничего не ждет, потому что все программы, которые можно было придумать, давно приняты. Их остается только реализовать. Я имею в виду в первую очередь директиву №4 2010 года «О развитии предпринимательской инициативы и стимулировании деловой активности в Республике Беларусь».

Но есть отдельные вопросы, которые диктуются текущим моментом. Например, продолжает оставаться очень сложным финансовое положение многих организаций, занимающихся производством. Это связано с изменением и ситуации на рынках, и некоторых моментов с точки зрения уплаты налогов. В феврале мы направили записку в адрес Совета министров, где говорили о необходимости принятия срочных мер по оздоровлению экономики. Ведь неплатежи, задолженности растут непомерно. Мы предлагали более гибко подходить к моменту определения сроков уплаты налогов с тем, чтобы они шли не авансово, а по факту получения выручки. Мы говорили о необходимости снижения налоговой нагрузки, потому что в условиях кризиса самый действенный инструмент борьбы с ним — это снижение налогов. А наше родное правительство в этих условиях, наоборот, ищет варианты, как дополнительно изъять какие-то ресурсы у предприятий. В результате появляются такие указы, как 361-й, где, по сути, все импортеры должны выступить кредиторами государства в ущерб своим интересам.

Нужен ряд реформ с точки зрения либерализации, улучшения финансового положения. Почему субъект хозяйствования не может выбрать для себя: по какому факту платить налоги? В прошлые годы каждый выбирал: либо по факту отгрузки, либо по факту поступления денежных средств. А с прошлого года взяли и обязали всех уплачивать по факту отгрузки. Не получив выручку, предприятие должно уплатить налог! А откуда он может уплатить, не получив сам? Только за счет кредитных ресурсов. Они дорогие, значит, усугубляется экономическое положение субъектов хозяйствования.

Для отдельных секторов проблемами становятся гарантии собственности, невмешательства. Я не затрагиваю индивидуальных предпринимателей, которые торгуют на рынках, у них свои проблемы. Они не знают, что делать с этой сертификацией.

Конечно, у каждого сектора экономики есть свои проблемы. Но для большинства, как я и говорю, это высокая налоговая нагрузка, высокая стоимость кредитных ресурсов, по сути дела, неподъемная для развития инвестиционной деятельности. С такими высокими процентными ставками работать практически невозможно.

**— В октябре в рамках проекта «Реформум» состоится форум представителей бизнес-сообщества. На ваш взгляд, какие вопросы стоит вынести на его повестку?**

— Основной вопрос на сегодняшний день — создание и развитие конкурентной среды и равные условия для участников рынка. Второй — это снижение налоговой нагрузки.

**— Как налажена коммуникация между властью и бизнесом по этим проблемам? Как вы общаетесь с правительством?**

— Мы с правительством общаемся официально, через наши послания, записки. По той февральской, что я упоминал, была резолюция Мясниковича с серьезными поручениями Прокоповичу, Минэкономики, Министерству финансов. Но у Министерства финансов есть свои взгляды. Они выполняют сегодняшнюю задачу наполнения бюджета, а то, что у субъектов хозяйствования проблемы, их мало волнует. Им надо сегодня закрыть какие-то бреши в бюджете, поэтому они мало думают о завтрашнем дне.

**— А с другими бизнес-союзами кооперируетесь для более эффективного давления на правительство?**

— При необходимости кооперируемся, если наши взгляды совпадают.

**— Бывает, что не совпадают?**

— Бывает.

**— Как бы вы оценили открытость властей к диалогу с бизнесом? Готовы ли они слушать?**

— Это риторический вопрос. Надо аргументированно говорить, и тогда власти будут слушать. Другое дело, что многие вещи не так просто изменить. И для того, чтобы осуществить какие-то изменения, нужно определенное время. То же снижение налоговой нагрузки можно сделать сразу, но это будет болезненно для бюджетных организаций. Поэтому мы ставим задачу постепенно, ежегодно снижать, условно говоря, на 0,5% налоговую нагрузку — это вполне по силам.

Мы неоднократно ставили вопрос о том, что нагрузка на фонды оплаты труда уже сегодня не стимулирует развитие и структурные изменения в экономике. Все платят НДС 20%. По сути дела, НДС — это налог на живой труд. В организациях, допустим, сферы услуг никаких материальных затрат нет, только живой труд — руки, мозги. И когда она еще раз облагается НДС, получается, что налоговая нагрузка достигает запредельных размеров и не стимулирует развитие этой сферы. Поэтому нужна разумная налоговая нагрузка, которая стимулировала бы структурные изменения. Мы писали об этом правительству еще в феврале. Но, к сожалению, эти наши предложения пока не учли.

Мы уже пять лет ставим вопрос по изменению нагрузки по отчислениям в фонды социального страхования. Ведь сегодня наниматель платит 34% в фонд социального страхования, и это ощутимо для себестоимости продукции, ее конкурентоспособности. Во всем мире нагрузка распределяется между нанимателем и работником, и тогда работник сам контролирует и считает, что он заработает для своей будущей пенсии. И даже в директиве №4 есть пункт, предусматривающий внесение изменений в распределение этой налоговой нагрузки, но до сих пор ничего не сделано.

**— А что вы понимаете под «структурными изменениями»?**

— Под структурными изменениями я понимаю изменения экономики с тем, чтобы в ней стало больше доли высокоэффективных отраслей и меньше отраслей с низкой производительностью труда. Ведь трудовые ресурсы в стране ограничены. Весь вопрос в том, как мы будем эти ресурсы использовать.

Структурные изменения могут быть и по формам собственности. Почему мы говорим, что надо увеличивать долю малого и среднего бизнеса? Потому что в нем, как правило, более высокая производительность, эффективность. А когда в экономике преобладают более эффективные предприятия, то и экономика становится эффективнее.

**— Вы сказали, что для убеждения властей нужно говорить с ними аргументированно. А какие аргументы убеждают власти?**

— Прямые доказательства, расчеты, международный опыт.

**— Что из ваших предложений, допустим, было реализовано за последнюю пятилетку?**

— Реализовано немало. Вот в прошлом году Министерство финансов выносило предложение о повышении ставки НДС (сейчас они опять это на следующий год предлагают). Наша аргументация была в том, что этого делать ни в коем случае нельзя. Это вызовет рост цен, станет дополнительным налогом на население. В итоге такое решение, слава Богу, не было принято. Я не говорю, что мы одни этого добились. Этого добилось, скорее, все бизнес-сообщество.

**— А что с последним нашумевшим случаем по специмпортерам?**

— Поскольку этот проект был подготовлен Министерством промышленности, мы попросили их дать обоснование и вынести вопрос на обсуждение общественного совета, который создан при Министерстве промышленности, с приглашением на заседание тех организаций, к которым должны были перейти функции специмпортеров. Хотя бы с тем, чтобы послушать, готовы ли они выполнять такую работу. Ведь это непростая работа в целом — взять и, к примеру, тракторному заводу заниматься закупкой сельхозтехники для всей страны. Кроме того, мы направили наши возражения и замечания в Совмин, и буквально через неделю пришел ответ: всё, все вопросы сняты, нет больше смысла выносить их на обсуждение.

**— Если правительство убедить в чем-то не удается, считаете ли вы оправданным прибегать к более радикальным формам протеста, таким, как забастовка, как это делают в последнее время индивидуальные предприниматели? Критики считают, что забастовка — форма протеста наемных работников, а не предпринимателей...**

— Я с этим абсолютно согласен. У нас такой дилеммы никогда не было. Мы объединяем предприятия, коммерческие организации, а не ИП. И представить, чтобы, условно говоря, «Мілавіца» забастовала — как это? Рабочие могут забастовать, но чтобы наниматель, руководитель предприятия забастовал — такого, видимо, и в природе не может быть. Как мы знаем из всей истории, забастовка — это конфликт между нанимателем и наемным работником. Когда наемный работник не согласен работать, как предлагает наниматель, он начинает бастовать. У нанимателя же есть другой инструмент — лок-аут. Если рабочие не хотят у него работать, он их увольняет. Правда, это уже очень жесткий инструмент...

**— Но это скорее из области борьбы нанимателя с работниками, а вот как вы относитесь к забастовкам ИП как к протесту против действий властей? Вы считаете, такой инструмент борьбы может быть эффективным?**

— А это не инструмент. Если ты не хочешь заниматься бизнесом, не занимайся. Если ты не хочешь работать, не работай. Наниматель же их не заставляет работать, они же сами, индивидуальные предприниматели, каждый работает, как он считает необходимым. Это не инструмент и не аргумент. Это больше публичное действо. Надо всегда стремиться отстаивать свои права через диалог, лучше лишний раз встретиться, переговорить. Лучше аргументация, но не война.

**Артем ШРАЙБМАН.**



**Георгий Петрович Бадей**. Родился 26 января 1942 года. Окончил Белорусский политехнический институт по специальности инженер-механик; Институт повышения квалификации Академии управления народного хозяйства при Совете министров СССР. Работал инженером-конструктором на Минском тракторном заводе, затем в Госплане БССР (с 1984-го по 1990 годы — заместителем председателя). С 1990-го по 1994 год — министр труда и социальной защиты, с 1994—1995 годов — министр приватизации, в 1995—1996 годах — министр экономики. С 1996 года — советник, вице-председатель БСПН, с 2001 года — его почетный председатель.

БСПН создан 15 мая 1990 года, объединяет негосударственные предприятия разных отраслей экономики.

Народная Воля http://www.nv-online.info 22 ЖНІЎНЯ 2014 г.

ЧУЛІ?

## 39 сем'яў страцілі жыллё

*Яны мелі вялікую запазычанасць па аплаце жыллёва-камунальных паслуг.*

Усяго ў краіне за шэсць месяцаў 2014 года было пададзена 187 іскаў аб высяленні даўжнікоў. Як правіла, суды прымаюць рашэнне аб перасяленні неплацельшчыкаў праз некалькі месяцаў пасля падачы іску, пры гэтым ім даецца магчымасць пагасіць доўг. 39 сем'яў, якія гэтага не зрабілі, перасელены з кватэр у жылыя памяшканні меншай плошчы.

Трэба адзначыць, што на 1 ліпеня 2014 года запазычанасць па аплаце за ЖКП больш як шэсць месяцаў у 21 тысячы уласнікаў жылля. У першым паўгоддзі 17.123 даўжнікам было прыпынена прадастаўленне камунальных паслуг. За гэты перыяд пададзена 3 тысячы іскаў у суды на спагнанне даўгоў на суму 7,3 мільярда рублёў, пададзена на спагнанне 28 тысяч выканаўчых лістоў на суму 19,6 мільярда.

Большасць злосных даўжнікоў -- праблемныя сем'і, якія вядуць асацыяльны спосаб жыцця, злоўжываюць спіртнымі напіткамі.

## Абмежаванне продажу паліва адменена

У Беларусі з 22 жніўня адмяняецца абмежаванне продажу паліва для грузавых аўтамабіляў на прыгранічных запраўках. Такое рашэнне зацверджана спецыяльнай пастановай Савета міністраў.

Як вядома, з лістапада 2011 года канцэрн «Белнафтахім» абмежаваў продаж аўтамабільнага паліва на аўтазаправачных станцыях, размешчаных на прыгранічнай тэрыторыі, — не больш за 200 літраў на адзін грузавы транспартны сродак.

ЦЕНЫ

## Пишите письма!

*В Беларуси на 14,3% увеличены тарифы на услуги почтовой связи, оказываемые физическим и юридическим лицам.*

Соответствующее решение утверждено постановлением Министерства экономики РБ от 6 августа 2014 г. №58.

Тариф на пересылку почтовых карточек, простых писем и бандеролей (массой до 20 г) повышен с 2100 рублей до 2400 рублей с учетом налога на добавленную стоимость.

СТАЛІЦА

## Бывайце, кандуктары!



У верасні сталічны грамадскі транспарт развітаецца з кандуктарамі. Супрацоўнікам, якія працавалі і працуюць на гэтай пасадзе, прапануюць перакваліфікавацца ў кантралёраў або ў касіраў, штат якіх пашыраецца, паведамляюць «Мінск-Навіны» са спасылкай на «Мінсктранс». Пакуль кантралёрамі працуюць больш за 220 чалавек, у бліжэйшы час іх колькасць вырасце да 400.

Некаторыя кандуктары стануць працаваць касірамі, патрэба ў якіх узрастае.

ИЗ ПЕРВЫХ УСТ

# Михаил ПАСТУХОВ: «Беларусь может оказаться в положении зайца, попавшего в капкан»

***Многих читателей «Народной Воли» заставила задуматься статья доктора юридических наук, профессора М.Пастухова «Так что подписали в Астане?» («НВ», 08.07.2014 г.). Действительно, речь идет о судьбоносном — о сохранении суверенитета Беларуси в условиях обострения политической обстановки в нашем регионе. В этой связи редакция решила уточнить у автора статьи, бывшего судьи Конституционного суда, некоторые нюансы, связанные с конституционностью Договора о Евразийском экономическом союзе.***



**— Можно ли было вообще подписывать такой договор с точки зрения Конституции?**

— Согласно статье 8 Конституции, не допускается заключение международных договоров, которые противоречат Конституции. Между тем изучение Договора о Евразийском экономическом союзе свидетельствует, что отдельные нормы Договора вступают в противоречие с Конституцией. В частности, статья 13 Договора устанавливает, что выход из «союза» возможен только при согласии других государств-членов. На мой взгляд, это — серьезная угроза для суверенитета Беларуси, поскольку страна может оказаться в положении зайца, попавшего в капкан. На долгие годы она будет привязана к России, как пленница. Ситуация ухудшается еще тем, что, находясь в одной «упряжке» с Россией и Казахстаном, Беларусь вынуждена будет подчиняться «союзному праву». По Договору (ст.6) это право будет главенствовать на всем российско-белорусско-казахстанском пространстве.

**— Почему тогда не высказал своей позиции по проекту Договора Конституционный суд?**

— По действующему законодательству Конституционный суд самостоятельно не высказывает своей позиции. Он ждет, когда к нему обратятся «уполномоченные субъекты» (депутаты, президент, правительство). К тому же, насколько мне известно, Конституционный суд Беларуси не дает заключение по проектам международных договоров.

**— Как и кем может быть ратифицирован Договор?**

— Обычно международные договоры подлежат ратификации парламентом. По всей видимости, так и планируется сделать. Тем более что председатель Государственной думы С.Нарышкин заявил, что российский парламент не будет «тянуть» с ратификацией этого Договора. Белорусских парламентариев ненавязчиво приглашают последовать примеру. В результате может получиться так, что простые граждане государств-членов и не заметят, как окажутся в «союзном государстве» (читай — в западне).

Правда, есть один нюанс в процессе ратификации Договора. После утверждения его текста нижней и верхней палатой парламента он приобретает силу закона. В этом случае Конституционный суд должен высказать свое заключение о конституционности закона о ратификации. Однако можно догадаться, какую позицию займут судьи.

Вполне возможно поставить вопрос о ратификации Договора на всенародное голосование. Но захотят ли власти это сделать? Нужна ли им огласка содержания Договора и его возможных последствий? Ответы более чем очевидные. Тем не менее народ должен знать, какой договор собираются заключить власти за его спиной и высказать свое отношение к его тексту. По сути, в этом договоре решается вопрос о судьбе белорусской государственности и нации.

**— Можно ли как-то остановить надвигающуюся на Беларусь «тучу»?**

— Судя по действиям властей, альтернативы с ратификацией Договора о ЕАЭС у нас нет. Для демократических сил и патриотов Беларуси такой вариант кажется катастрофой и концом суверенитета. Остальным, как говорят, «до фонаря»: лишь бы жизнь продолжалась.

Конечно, если общественность осознает опасные последствия вступления Беларуси в «тройственный союз», то можно протестовать. Примером принципиальной позиции граждан страны может служить упоминавшийся на страницах «Народной Воли» Всебелорусский съезд за независимость 2000 года.

До официальной ратификации договора о «триедином государстве» еще есть время. Тем более что ситуация на «российско-украинском фронте» обостряется. Всякое может произойти. В условиях серьезных испытаний, в которые вступила и Беларусь, каждый из нас может внести свой вклад в защиту суверенитета и будущего страны. Это — наш гражданский долг! Мы — не только свидетели, но и творцы истории своей Родины!

**Беседовал Александр НИКОНОРОВ.**

САЛІДАРНАСЦЬ

## Ніна ЖЫЗНЕЎСКАЯ: "Дзякуючы ўкраінцам мы атрымалі кватэру"

Бацькі загінуўшага на Майдане беларуса Міхаіла Жызнеўскага ўрэшце набылі ўласнае жыллё — двухпакаёвую кватэру ў Гомелі і тым самым спраўдзілася мара сына.

— Дзякуючы розным фондам мы атрымалі кватэру, — расказала журналістам маці Міхаіла Ніна Жызнеўская. — Яны прыехалі сюды з Украіны, паглядзелі, у якіх умовах мы жывём, і сказалі, што маці героя павінна жыць у нармальных умовах. Самі дамовіліся наконт кватэры. Ёсць сярод беларусаў нармальныя людзі, якія прыязджаюць, якія размаўляюць, набываюць мне лекі. Але ёсць і такія, што плююць мне ў душу».

Міхаілу Жызнеўскаму было 25 гадоў. Хлопец стаў ахвяраю сутыкненняў на вуліцы Грушэўскага падчас Еўрамайдана 22 студзеня. Ён атрымаў агнявое раненне ў сэрца.

ВІНШУЕМ!

## "Настрой у сына бадзёры, упэўнены і цвёрды…"

*23 жніўня свой чарговы Дзень нараджэння адзначае ў турме палітзняволены Мікалай Дзядок, які адбывае пакаранне ў Магілёўскай турме №4.*



Нагадаем, што Мікалай быў затрыманы 3 верасня 2010 года як падазроны па справе аб "нападзенні на пасольства Расійскай Федэрацыі", а затым як падазроны па справе "аб нападзенні на аддзяленне "Беларусбанка".

24 верасня 2010 г., фактычна адбыўшы больш за 20 сутак пад арыштам, малады чалавек быў абвінавачаны ва ўдзеле ў несанкцыянаванай акцыі каля Генштаба Беларусі, і 1 кастрычніка яму было прад'яўлена абвінавачанне па артыкуле "хуліганства".

27 мая 2011 г. у судзе Заводскага раёна Мінска яму быў вынесены прысуд — 4,5 года пазбаўлення волі (так званая справа анархістаў). Падчас адбыцця пакарання яго зрабілі больш жорсткім — хлопца перавялі з калоніі ў турму.

Заўтра Мікалаю Дзядку спаўняецца 26 гадоў. З іх амаль чатыры гады ён правёў за кратамі.

Праваабаронцы-"вясноўцы", знаёмыя і сябры віншуюць Мікалая з Днём нараджэння і жадаюць яму хутчэйшага выхаду на волю!

Натуральна, чакаюць сына і бацькі палітзняволенага…

— Калі тваё дзіця трапляе за краты, ты быццам сам з ім адбываеш пакаранне, — распавядае бацька Мікалая, **Аляксандр Мікалаевіч ДЗЯДОК**. — Складана было і нам з маці, асабліва ў першыя гады зняволення сына. Але чакаць засталося няшмат, гэтымі чаканнямі і жывём.

**— Што піша Мікалай, які ў яго настрой?**

— Настрой бадзёры, упэўнены і цвёрды. Займаецца спортам і вывучэннем замежнай мовы, шмат чытае, у будучыню глядзіць з аптымізмам. У цэлым усё добра, наколькі добра можа быць "там". У лістах ні на што не скардзіцца, распавядае пра сваё жыццё-быццё. Яшчэ кнігі просіць даслаць.

**— Сёння, прааналізаваўшы ўсе падзеі, вы сына не асуджаеце?**

— Мы сына заўсёды падтрымлівалі і падтрымліваем да гэтага часу. Ён гэта добра ведае.

**— На Дзень нараджэння нейкім чынам павіншуеце?**

— На жаль, калі дазволяць, тэлефанаваць ён можа толькі сам. Перадачы забаронены. Павіншаваць можна толькі тэлеграмай ці ў лісце. І, безумоўна, Мікалаю вельмі прыемна будзе атрымаць "віншавальную" газету. Мы ўсе яго віншуем і чакаем!

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

**P.S.** *Мікалаю Дзядку можна даслаць віншавальную паштоўку альбо тэлеграму са словамі падтрымкі і цёплымі пажаданнямі на адрас:* **212011 г. Магілёў, вул.Крупскай, 99а, турма № 4.**

СІТУАЦЫЯ

## Альтэрнатыўная энергія нам не патрэбна?

*У Беларусі збіраюцца абмежаваць развіццё альтэрнатыўных відаў энергії. Падрыхтаваны ўжо праект нарматыўнага акта, які ўвядзе квоты на будаўніцтва энергакрыніц, што працуюць на нетрадыцыйных відах паліва.*



Праект распрацаваны па даручэнні Саўміна, заявіў начальнік упраўлення стратэгічнага развіцця «Белэнерга» **Андрэй Нягодзька**, інфармуе interfax.by.

Па словах чыноўніка, Мінэнерга нясе страты з-за таго, што вымушана набываць электраэнергію, якая выпрацоўваецца з аднаўляльных крыніц, з ужываннем стымулюючых каэфіцыентаў. Для ветравых і біягазавых установак і ГЭС каэфіцыент складае 1,3, для крыніц, якія працуюць на сонечнай энергії, — 2,7.

У 2013 годзе першы віцэ-прэм'ер **Уладзімір Сямашка** адзначаў, што ў Беларусі неабходна перагледзець сістэму стымулюючых каэфіцыентаў і ўвесці квоты на будаўніцтва такіх крыніц. Пры гэтым ён падкрэсліваў, што існуючы механізм прыводзіць да велізарных страт для дзяржавы.

Па дадзеных «Белэнерга», у цяперашні час у Беларусі налічваецца 70 блок-станцый, якія працуюць на аднаўляльных крыніцах энергіі. За студзень—чэрвень 2014 года яны адпусцілі ў сетку беларускай энергасістэмы 47.900.000 кВт-г электраэнергіі амаль на 87 мільярдаў рублёў.

ПЕДСАВЕТ

## Сярэдні заробак настаўнікаў Брэстчыны — 3,5 мільёна

*Памер павышэння зарплаты педагогам будзе залежаць ад якасці працы і катэгорыі работніка, заявіў намеснік міністра адукацыі Сяргей Руды на жнівеньскай нарадзе педагагічных работнікаў Брэсцкай вобласці.*

Намеснік міністра адзначыў, што павышэнне заработнай платы і сацыяльнага статусу педагога Міністэрства адукацыі лічыць адной з асноўных задач на 2014/2015 навучальны год. Ён паведаміў, што цяпер па даручэнні кіраўніка дзяржавы гэтае пытанне разглядаецца ўрадам, прапрацоўваецца механізм павышэння зарплаты. «*Будзе праводзіцца значнае павышэнне выплат па катэгорыях. Гэта значыць, будзе ўлічвацца якасць выкладання педагога і непасрэдна яго катэгорыя*», — падкрэсліў Сяргей Руды.




Паводле яго слоў, ёсць і іншыя магчымасці для павышэння зарплаты настаўнікам, якія не задзейнічаны ў рэгіёне. У прыватнасці, Брэсцкая вобласць мае невысокі паказчык па колькасці вучняў на аднаго настаўніка. «*Менавіта таму ў вобласці горшы паказчык па зарплаце настаўнікаў. Таму што суадносіны вучань/настаўнік у вас горшыя. У Магілёўскай і Гомельскай абласцях на 12 працэнтаў зарплата вышэйшая ў педагогаў, чым у Брэсцкай. Ёсць яшчэ шэраг паказчыкаў, якія ўплываюць на зарплату настаўнікаў. Існуюць методыкі, па якіх сэканомленыя грошы могуць быць накіраваны на павышэнне зарплаты*», — заўважыў намеснік міністра.

СПЕЦЫЯЛЬНЫ РЭПАРТАЖ

# Мінскія гатэлі: ажыятажу на засяленне няма

*Напярэдадні чэмпіянату свету па хакеі ў Мінску адбыўся сапраўдны гатэльны бум. Спецыяльна пад чэмпіянат пабудавалі ажно 14 новых гатэляў рознай класнасці — ад танных хостэлаў да пяцізоркавых гасцініц.*

*Чэмпіянат даўно прайшоў, а гатэлі і хостэлы засталіся. Ці ёсць у іх сёння пастаяльцы? Карыстаюцца яны попытам альбо пустуюць? Карэспандэнт "Народнай Волі" ў пошуках адказу на гэтыя пытанні патэлефанаваў менавіта ў тыя гасцініцы, якія былі адбудаваны спецыяльна пад хакейнае першынство.*



Другі корпус **гасцініцы "Вікторыя"**, што на праспекце Пераможцаў 59А, адкрылі 3 красавіка бягучага года. Нумарны фонд гэтага навабуда склаўся з 256 нумароў: 63 аднамесных і 181 двухмеснага. Таксама ёсць 8 люксаў, апартаменты і тры нумары для людзей з абмежаванымі фізічнымі магчымасцямі.

Відавочна, што пасля з'яўлення ў Мінску новых гасцініц барацьба за турыста ідзе больш чым сур'ёзная. Прыезджых заманьваюць хто чым можа. Гатэль "Вікторыя", напрыклад, зніжкамі на пражыванне ў летні перыяд. У будныя летнія дні зніжка складае 25% ад кошту нумара, а ў выхадныя — 30%.

Забраніраваць нумар у гэтым гатэлі аказалася даволі проста.

— *Па шчырасці, вялікага ажыятажу зараз няма*, — прызнаецца супрацоўніца аддзела браніравання. — *Вольных нумароў хапае, але летам заўжды так. Аднамесны нумар да канца жніўня будзе каштаваць 1.384.000 рублёў за ноч, у верасні кошты крыху падрастуць. За той жа самы нумар прыйдзецца заплаціць 1.870.000 рублёў. Кошт двухмеснага нумара — 2.470.000 за летнюю ноч, а люкс можна замовіць за 3.070.000.*

Калі кошты ў гатэлі "Вікторыя-2", прама скажам, кусаюцца і не кожны можа заплаціць 150—200 долараў за адну ноч у гасцінічным нумары, то гасцініца **IT time** якраз і разлічана на тых, хто аддае перавагу адпачынку ў стылі эканом-класа.

Гэты двухзоркавы гатэль знаходзіцца ў Мінску на вуліцы Купрэвіча. Тэлефаную туды, замаўляючы нумар на канец жніўня — пачатак верасня.

— *Нумары ў нас даволі простыя — ложак, шафа, тумбачка, тэлевізар, тэлефон і санвузел. Ёсць "вай-фай",* — рэкламуе гасцініцу супрацоўніца, адказная за засяленне. — *Кошт нумароў і ў жніўні і ў пачатку верасня будзе аднолькавы. За аднамесны мы бяром 35 долараў па курсе Нацбанка Беларусі ў дзень засялення, двухпакаёвы двухмесны абыдзецца ў 70 долараў, самы дарагі ў нас — гэта люкс — 80 долараў у суткі, тут акрамя стандартных зручнасцей ёсць пакой для адпачынку з канапай. 85 долараў за ноч будзе каштаваць трохмесны двухпакаёвы нумар*.

*На названыя вамі даты вольныя нумары ёсць. Канкрэтна можна пагаварыць і пазней, бліжэй да засялення, асабліва наплыву турыстаў, на вялікі жаль, зараз няма.*

Трохзоркавы гатэль **"Арэна",** які знаходзіцца ў Мінску на вуліцы Ташкенцкай, таксама не можа пахваліцца стопрацэнтнай загружанасцю — нумары рознай класнасці ў вольным для засялення доступе ёсць.

— *Мы можам прапанаваць вам любыя апартаменты з нашага нумарнога фонду,* — гавораць там. — *Самы танны варыянт — гэта аднамесны стандартны нумар, усяго за 827.000 рублёў. Двухмесны стандарт абыдзецца ў 1.138.000, нумары класа люкс каштуюць 1.8111.000, а апартаменты ў нашым гатэлі — каля 3.300.000 за ноч*.

У трохзоркавай гасцініцы **"Славянская",** што на вуліцы Нарачанскай, таксама вольныя нумары ёсць. І замовіць іх можна нават проста ў дзень прыезду.

— *Ніякай праблемы няма, вы можаце патрапіць да нас у дзень прыезду ў Мінск,* — гаворыць супрацоўніца. — *Варыянты для засялення ёсць заўжды, такога, каб гасцініца была запоўнена пад завязку, няма. Што-небудзь падбяром...*

У "Славянскай", зразумела, ёсць нумары рознай камфортнасці. Самы танны — аднапакаёвы. Пры ўмове, што там будзе жыць адзін чалавек, кошт за суткі пражывання складзе 64 долары па курсе Нацбанка, у выпадку пражывання двух чалавек кошт узрасце да 84 долараў. Пражыванне ў двухпакаёвым двухмесным нумары вагаецца ад 99 да 119 долараў, зноў-такі у залежнасці ад колькасці пражываючых.

Яшчэ адным навабудам, разлічаным на хакейных заўзятараў, стаў гасцінічны комплекс **"Рэнесанс",** што на праспекце Дзяржынскага. У ім 267 нумароў.

Не здзівіўся, калі пачуў, што вольныя месцы ёсць.

— *Канешне, лепш браніраваць нумар загадзя,* — гаворыць супрацоўніца гасцініцы. — *На канец жніўня вольныя нумары ёсць, але іх не так шмат. Летам у нашым гатэлі зніжкі. Пакуль што замовіць можна на наступных умовах. Двухмесны стандарт, напрыклад, каштуе 1.270.000, у верасні за гэты ж нумар прыйдзецца плаціць 1.948.000. Гэтыя кошты без уліку харчавання. За сняданак трэба разлічвацца асобна. Яго кошт каля 300.000 рублёў з аднаго чалавека.*

Бадай, самым элітным з усіх пабудаваных спецыяльна да чэмпіянату свету гатэлей стаў сталічны ***"Пекін".*** Гасцініца мае пяцізоркавы ўзровень, адпаведна і пяцізоркавыя кошты.

— *Па шчырасці, мы зацікаўлены ў тым, каб турысты прыязджалі да нас групамі,* — адзначылі ў "Пекіне". — *Напрыклад, верасень у нас амаль цалкам распісаны, знайсці нумар для вас не так і проста. Што тычыцца коштаў, то пакуль што дзейнічаюць летнія зніжкі. Яны наступныя: "стандарт", з умовай пражывання двух чалавек, да канца лета абыдзецца вам за ноч у выхадныя дні 1.995.000 рублёў і 2.205.000 рублёў у будні. Нумары класа дэлюкс каштуюць ад 2.100.000 да 2.310.000 рублёў за ноч. У нас можна забраніраваць нумар, што называецца, "сёння на сёння", гэта так званае экстраннае браніраванне, але лепш не рызыкаваць, а рабіць гэта загадзя.*

Апошняй гасцініцай, куды я патэлефанаваў, стаў гатэль **"Манастырскі",** які ўваходзіць у структуру гасцінічнага комплексу "Вікторыя". Яго "фішкай" лічацца звыклыя зніжкі ў летні перыяд і асаблівы падыход да тых, хто вырашыць правесці сваю першую шлюбную ноч менавіта тут.

— *У гатэлі 48 нумароў,* — расказвае супрацоўніца. — *Вольныя нумары ёсць. Для таго каб прывабіць турыстаў, у нашым гатэлі дзейнічаюць зніжкі — 10% да 31 жніўня. Зараз засяліцца ў аднапакаёвы аднамесны нумар можна за 1.100.000 рублёў. Для двух гасцей ёсць нумары катэгорыі "дабл", якія каштуюць 1.410.000, ну а кошт пражывання ў люксе вагаецца ад 2.000.000 да 2.160.000 за суткі.*

*Да таго ж наш гатэль робіць зніжкі для маладых. Пры наяўнасці пасведчання аб шлюбе мы засяляем маладых са зніжкай у 20% ад кошту абранага імі нумара, а калі яны замаўляюць у нас вясельны банкет, то зніжка на пражыванне дасягае 30%.*

Як бачым, нягледзячы на ўсе намаганні сталічных гатэльераў, праблема запоўненасці сталічных гасцініц рознага ўзроўню стаіць перад імі даволі востра. Адзначу, што, па афіцыйных даных, "загружанасць" сталічных гатэляў у чэрвені бягучага года склала ўсяго 54,1%. Гэтыя даныя нядаўна агучыла начальнік аддзела развіцця гасцінічнай гаспадаркі Упраўлення бытавога і гасцінічнага абслугоўвання насельніцтва Мінгарвыканкама **Любоў Сойка.** Гэта значыць, што сталічныя гасцініцы запоўнены крыху больш чым напалову. Чыноўніца лічыць, што такі ўзровень лічыцца нядрэнным, таму што дазваляе забяспечыць іх рэнтабельнасць.

І ўсё ж узнікае лагічнае пытанне: ці трэба будаваць у Мінску новыя гатэлі, калі тыя, што ёсць, не запаўняюцца нават на тры чвэрці?

**Віталь ГАРБУЗАЎ.**

КРЫК ДУШЫ

## *Брэст — беларускі горад ці не?*



Прачытаў у вашай газеце ліст В. Галавача “Каго ўшаноўваем? Тэрарыстаў, бандытаў?” і мне захацелася працягнуць гэтую тэму.

У Брэсце я жыву ўжо дастаткова доўга — каля сарака гадоў і ўвесь гэты час (асабліва ў апошнія 12—15 гадоў) задаюся пытаннем: “А ці ў Беларусі я жыву?” Мяркуйце самі. Горад раздзелены на два раёны — Ленінскі і Маскоўскі. Назвы трох з чатырох галоўны вуліц Брэста: Савецкая, Леніна, Маскоўская; галоўная плошча — імя Леніна (з помнікам яму). Да яе прылягаюць вул.Камуністычная і іншыя, названыя ў гонар паплечнікаў Леніна і Сталіна.

Усе былыя савецкія рэспублікі, я не кажу ўжо пра краіны былога сацыялістычнага лагера, адразу ж адмовіліся ад камуністычнай атрыбутыкі. Адна толькі Беларусь трымаецца за яе не толькі рукамі і нагамі, але і зубамі, ігнаруючы пры гэтым усё сапраўды нацыянальнае, беларускае. Брэст настолькі небеларускі горад, што ў пакалення, якое падрастае, проста няма адкуль узяцца патрыятызму да роднай краіны.

Я абышоў і аб’ехаў увесь горад над імклівым Бугам і што пабачыў? Шыльды на беларускай мове можна пералічыць па пальцах, прычым палова з іх — назвы кнігарняў. Астатнія — з памылкамі. Ну, напрыклад: “Цукерня “Канді”. Але ж трэба праз “з” — “Кандзі”. Ці: “ул.Савецкая”. Як кажуць, без каментарыяў. Няўжо ў гарвыканкаме няма супрацоўніка, які б сачыў за гэтым?

Са становчага адзначу тое, што ў новых мікрараёнах з’явілася некалькі білбордаў на беларускай мове, якія радуюць вока і цешаць душу. Безліч жа астатніх проста азмрочвае настрой: рускія, англійскія, некалькі італьянскіх, пара польскіх. І бясконцыя абракадабры: “Алмі”, “Элма”, “ТОПО”, “Пріс”, “Артверанд” і гэтак далей. На апошнюю можна падумаць, што гэта “Артыстычная веранда”. Але не ўгадалі — гэта звычайная прадуктовая крама. І ўсё гэта на фоне таго, што сельскае насельніцтва вакол Брэста размаўляе на “паляшуцкай” мове, вельмі блізкай да ўкраінскай.

Рухаемся далей. Педуніверсітэт у нас — імя Пушкіна, абласная бібліятэка таксама “імя Пушкіна”, паўз іх ідзе вуліца Пушкінская, гарадская бібліятэка — імя Горкага. У горадзе ўстаноўлены помнікі Т.Шаўчэнку, А.Міцкевічу, М. Гогалю. Гэта добра, але ж ніводнага помніка — каму-небудзь з беларускіх класікаў. Вуліцай вялікага асветніка Францыска Скарыны названы тупічок перад чыгункай у тры (!) дамы. Проста нейкі здзек з пачуццяў нацыянальна арыентаваных беларусаў! Хаця здзіўляцца тут няма чаму, калі ў самой сталіцы праспект Скарыны быў перайменаваны.

Дзесьці я прачытаў, што бельгійскі ўніверсітэт у знак прызнання заслуг Ф.Скарыны перад Еўропай здаўна і па сённяшні дзень пры паступленні ў яго іншаземцаў перавагу пры залічэнні аддае беларусам, прычым вучацца яны, у адрозненне ад іншых, на... бясплатнай аснове. У нас жа гэты факт чамусьці замоўчваецца.

За рэчкай Мухавец у Брэсце пабудавана некалькі новых мікрараёнаў. І вось дзве самыя вялікія вуліцы, якія смела можна аднесці да праспектаў, названы... “Краснознаменная” і «Октябрьской революции”. Што ці хто прымушае дэпутатаў гарсавета ў нашы дні даваць вуліцам падобныя назвы?! Ды лепей ужо, як спявае Юрый Антонаў, “пройдусь по Абрикосовой, сверну на Виноградную”... Здзіўляе, што ўлады гэтак моцна ўсё яшчэ трымаюцца за старое, месца якому — на звалцы гісторыі.

У Брэсце зараз — змена ўлады. З дня на дзень чакаем новага старшыню гарвыканкама. Хочацца верыць, што ў адрозненне ад свайго папярэдніка гэта будзе прагрэсіўны, з новым мысленнем чалавек.

**Вадзім БРАШЭВІЧ, неабыякавы чалавек, патрыёт Беларусі.**

ПРОШУ СЛОВА!

## *Уличные торговцы — спекулянты или предприниматели?*

Идя на Минский автомобильный завод или в магазин, я нередко встречаю уличных торговцев. Они торгуют одеждой, яблоками, семечками, женским бельем и прочей продукцией. Люди с удовольствием покупают у них товар. Что объяснимо: цены ниже и можно поторговаться: продавец уступит.

Можно ли этих людей назвать «паразитами» и «спекулянтами»? Мне думается, нет. Ведь люди своим трудом зарабатывают себе на кусок хлеба. Многие вышли на улицу, чтобы иметь хоть какую-то прибавку к небольшой пенсии.

Уличный торговец — это предприниматель и наемный работник в одном лице. Ему необходимо купить товар по низкой цене, доставить его потребителю и продать себе не в убыток. Это ведь тоже работа.

Много они не зарабатывают. Наверное, на жизнь им хватает, ведь они не платят налогов государству, но и государство о них не заботится. Трудовая книжка на них не оформляется, значит — трудового стажа нет. Больничные листы тоже не оплачиваются: они не платят в Фонд социальной защиты населения ни копейки. Много хлопот им доставляет милиция. А жаловаться на людей в погонах не пойдешь: торгуют ведь без разрешения. «Профсоюза у нас нет, так что защищать мои права некому», — говорила одна женщина, торгующая семечками.

Мне кажется, что работники милиции не должны запрещать этим людям торговать на улицах. Ведь они не попрошайничают и не ведут паразитический образ жизни. Но нужно, безусловно, упорядочить эту торговлю: создать им так называемые уголки для торговли, чтобы вся эта стихийная «купля-продажа» обрела цивилизованный вид. Понятно, эти люди в какой-то мере создают конкуренцию государственной торговле, и возможно поэтому городские власти всячески пытаются от них избавиться. Куда проще задавить беззащитного конкурента, чем снизить цены на товары и навести порядок в торговле. На мой взгляд, именно по этой причине несколько лет назад исчезли из городских улиц торговые киоски. Хотя они в городскую казну платили налоги и арендную плату...

**Сергей СЕМЕНОВ, рабочий МАЗа.**

ОСТРЫЙ ВЗГЛЯД

# Еще раз о наградах, и не только

Как-то в «Народной Воле» была напечатана небольшая заметка инвалида войны Кима Николаевича Фурмана о наградах, которыми обвешаны наши военные, и не только военные, у некоторых «почти как у маршалов и генералов Великой Отечественной войны». Вот только уважения к владельцам таких «иконостасов» почему-то не испытываешь. Скорее наоборот. Когда обычные цацки-медали, навешанные на мундиры и пиджаки к какому-либо «летию», выдаются за награды, это вызывает разве что иронию.

Около года назад шел я в Минске мимо здания КГБ в сторону ГУМа. А мне навстречу — с букетом в руках счастливый улыбающийся парень, внешне лет двадцати. Под распахнутым плащом (распахнул он его явно специально) на лацкане пиджака была прикреплена медаль «За отвагу». Так захотелось пожать этому парню руку и поздравить. Понятно, что эту боевую награду он заслужил за что-то конкретное. Боевые награды просто так не дают.

Однажды, зайдя в продовольственный магазин на Московской, увидел высокую стройную, несмотря на возраст, женщину. Была она, похоже, с мужем. Все работники магазина, улыбаясь, здоровались с ними. На лацкане идеально сшитого белого костюма женщины была прикреплена всего лишь одна награда — Золотая Звезда Героя Труда «Серп и Молот». Пусть это не боевая награда, а трудовая, но заслуженная, и понятно, за что она присвоена. Я поклонился этой женщине, движимый чувством глубокого уважения.

Проходил как-то мимо Дома правительства. По площади Независимости в парадной форме с золотыми офицерскими погонами передвигались представители самого главного войска в стране, выполняющие функции сторожей. И у каждого «воина» на груди болтались какие-то медали. У некоторых по несколько штук. Попытался к ним приглядеться, и мне стало смешно. Среди них не было ни одной настоящей награды!

Еще большее удивление вызвало то, что такие же «награды» я увидел 26 апреля 2013 года на кителях некоторых суворовцев-подростков, взвод которых проходил по этой же площади под командой майора, увешанного такими же цацками-медалями, но только в большем количестве. Ну где уж ветерану войны, заслужившему за несколько боевых лет только одну медаль «За победу над Германией» и орден Отечественной войны, с ними сравниться! И как настоящего ветерана войны или того, кто действительно заслужил в мирное время боевую или трудовую награду, отличить от тех, кто увешан различными побрякушками, прикрепленными на мундиры или на гражданские костюмы там, где положено крепить настоящие ордена и медали?

Не хочет молодежь испытывать к таким «героям» уважение. Да и заслуживают они лишь ехидных насмешек со стороны настоящих ветеранов и героев. Ведь каждая награда должна говорить сама за себя: «За боевые заслуги», «За личное мужество», «За трудовое отличие», медаль «Франциска Скорины», «Знак Почета» и т.д. А о чем может говорить такая медаль, как «95 лет Вооруженным силам Республики Беларусь» или «75 лет стройбатам страны»? Нашей стране — суверенной независимой Республике Беларусь — всего 22 года, а ее войскам и стройбатам, оказывается, уже целых 95 и 75.

А что это за награды «10 (20) лет вывода войск из Афганистана». Ведь даже те, у кого после службы есть хоть одна настоящая награда, пусть даже только памятный знак «Воину-интернационалисту СССР», заслуживают большего уважения, чем тот, кто собрал коллекцию из десятков орденов и медалей, среди которых боевой орден Красного Знамени. Ведь все остальное — это бутафория, которая вызывает насмешки в интернете. Так зачем же прятать свои настоящие заслуги перед страной и своим боевым прошлым, пытаясь перещеголять маршала Г.К.Жукова общим весом «наград»? Чтобы стать еще и героем анекдотов, как Брежнев?

Впрочем, болезнь эта осталась с советских времен, когда на фоне Золотой Звезды Героя Советского Союза, заслуженно полученной в войну (1944 г.) П.М.Машеровым, завистливые руководители страны стали сами на себя цеплять аналогичные звезды к своим юбилеям, а позже просто к дням рождения, становясь трижды, четырежды и даже пятикратными дутыми «героями». И награды на пиджаках и




мундирах можно уже было измерять килограммами. А после смерти владельцев аннулировать как необоснованно полученные, как случилось с орденом «Победы» Л.И.Брежнева. Ведь настоящих ветеранов войн уже почти не осталось, а тех прапорщиков с орденскими планками на кителях, выдававших портянки и воровавших спирт и тушенку, теперь уже даже суворовцы по «наградам» догонять стали. Так не проще ли прекратить выпуск надуманных медалей под всякие «летия», в том числе и «за выслугу лет», чтобы к человеку, у которого на груди появится орден или медаль, пусть единственная за всю его жизнь, можно было действительно относиться с уважением (у большинства гражданских их вообще быть не могло), а не с насмешкой? А если кому-то так хочется числиться в списке «героев», облепленных медалями, так давайте «награждать» и уборщиц ЖЭСов, рабочих заводов, сельхозорганизаций, кто отработал 5, 10 и 15 лет. А почему у врачей, спасающих от смерти людей, нет никаких наград под названием «За спасение жизни людей»? А правильнее было бы ко всяким юбилеям и событиям, за выслугу лет вручать ветеранам подарки и памятные сувениры, начиная с юбилейного настольного знака и заканчивая автомобилем или даже квартирой. Думаю, настоящие герои и ветераны за это не обидятся, а, наоборот, с гордостью будут носить на груди одну-единственную, как тот случайно встреченный парень, медаль «За отвагу» или знак «Воину-интернационалисту СССР», получив к юбилеям окончания Отечественной войны, ухода из Афганистана или к своему дню рождения, юбилею телевизор, часы, путевку на отдых или хотя бы набор посуды производства Республики Беларусь с соответствующей надписью. Уверен, что к 70-летию Победы почти у всех, кто в форме и без нее, и даже у подростков-суворовцев, не имеющих к ней никакого отношения, появятся очередные прилепленные к мундирам бутафорские медали, которые я назвал бы так: «70 лет личного неучастия в Отечественной войне».

Ведь неслучайно лет двадцать назад в одном западном журнале рядом появились две фотографии, сделанные в СССР. На одной — породистые псы, обвешанные медалями, и надписью внизу: «У каждой собаки в СССР есть свой день». А на другой — группа пожилых мужчин с различными медалями. И надпись под снимком: «У каждого мужчины в СССР есть свой день». Тогда ветераны обоснованно возмутились, приняв это за оскорбление. Думаю, что и нынешнее возмущение автора заметки в «Народной Воле», инвалида войны К.Н.Фурмана не менее обоснованно. Любая награда должна быть заслуженной, чтобы все понимали, за какой конкретно героический поступок или трудовой подвиг она вручена. Даже в царские времена перед полными георгиевскими кавалерами, когда они входили, все, включая императора, должны были встать. А глядя на человека, напоминающего бутафорскими медалями новогоднюю елку с цацками, хочется смеяться.

Аналогичная ситуация и с воинскими званиями. Их значимость упала до такого уровня, что офицеры и даже генералы, за редким исключением, становятся такими же бутафорскими, как и награды к очередному «летию». Читаю в официальной прессе сообщение о вручении группе офицеров полковничьих погон. Среди них дама, занимающая пост заместителя начальника финансового управления УВД горисполкома. Да помилуйте! Это же в лучшем случае капитанская должность. В крайнем — майорская. Значит, если начальник — генерал, а над ним еще куча начальников, то они уже должны быть маршалами! Да и вообще, это же гражданская специальность — финансист, экономист. Чем ее работа отличается от работы такого же замначальника финансового управления образования или культуры? А сколько в войсках еще подобных старших офицеров, работающих бухгалтерами, ревизорами, экономистами! И на пенсию уйдут сорокалетними, а то и раньше. Разве с этой работой не могут справиться гражданские и работники спецуправления Министерства финансов, принявшие, если надо, специальную присягу? В российской армии в воинских подразделениях уборщиками в казармах и поварами сейчас работают гражданские лица (воинские части в Карелии и других местах). А когда идешь по Минску, складывается впечатление, что самое низкое воинское звание у нас — подполковник.

Читаю информацию в день 8 Марта о том, могут ли белорусские женщины-полковники стать генералами. Конечно, могут. Ведь они прослужили, фактически на гражданских должностях, по 15—19 лет, а генералами уже становятся председатели колхозов, ветеринары, даже если они никогда не служили в армии.

Знаком с некоторыми бывшими и настоящими военными. Становится смешно. Обычное воинское подразделение с незначительной численностью личного состава (не буду называть цифры, а то чего доброго обвинят в разглашении сведений особой государственной важности), а командир и даже его заместители — полковники. Так кто из них, как в песне А.Пугачевой, «настоящий полковник»? Особенно расплодилось «бойцов» в погранвойсках. Довелось лет шесть назад наблюдать, как на одном из железнодорожных узлов в Гродненской области почти взвод воинов, в том числе прапорщиков, офицеров, под наблюдением подполковника в поисках «врагов народа и шпионов» бегает по вагонам дизеля, проверяя корзины и «аусвайсы» у бабулек. Погранзона! А до границы еще пилить и пилить. В Лиде при мне в поминальный день отказались продать билет интеллигентной женщине для поездки в Вороновский район на могилы родственников — погранзона, а у нее пропуска нет. И бегают пограничники в форме, что-то проверяют, ковыряются. Выслуга идет, возможно, один год за полтора, вешаются медали. Муж знакомой из погранвойск в 36 лет в звании подполковника ушел на пенсию. Выслуга оказалась достаточной. За что такие льготы? Ведь от плюшевых медведей они не спасли, а бабули в корзинах по-прежнему только яйца, сало и булки с грибами носят. На самой же границе еще толпы людей в форме таможенников. Их-то функции можно объяснить, если забыть про десятки уголовных дел за взятки, полученные их коллегами.

Ротами командуют майоры, батальонами — полковники. Ведь для того, чтобы в Советский Армии получить должность выше майорской и соответствующее ей звание, нужно было иметь не только общее высшее, а высшее военное образование. А для этого пройти конкурс и учебу в Военной академии. Генералом же мог стать только тот, кто окончил еще и Академию Генерального штаба.

Бутафорские награды, завышенные по отношению к численности подчиненного личного состава и должности звания, генеральские погоны на костюмах гражданских лиц и даже маршальские на военной форме ребенка, придуманные несуществующие воинские звания и медали к непонятным юбилеям. И одновременно нищенские пенсии и зарплаты, высокие цены на продукты, коррупция среди чиновников-назначенцев, прогрессирующее пьянство, деморализующее общество и постоянные поиски виновных. И главное достижение всего этого — фактическое уничтожение языка собственного народа. Кому и какую медаль, а то и орден килограммов на пять за это вручить? Не бутафорские, а настоящие.

Пора, чтобы какая-нибудь женщина стала генералом, обеспечив не элегантную, а реальную победу на выборах, а нас стали бы уважать не только в мире, но и мы сами собой стали бы гордиться.

**Алексей ОРЛОВСКИЙ, экономист, преподаватель, офицер запаса Советской Армии.**
*Минск.*

З ЛІСТА

## *Толькі праз інфакіёск*



З 1 жніўня аплаціць паслугі мабільнай сувязі ў банках можна толькі ў інфакіёску. Хачу паведаміць аб гэтым усім, каб чытачы “Народнай Волі” не апынуліся ў такой жа сітуацыі, як я. Днямі адстаяў 30 хвілін у чарзе ў адным з аддзяленняў «Беларусбанка», і толькі калі перадаў касіру грошы, яна мне паведаміла гэтую навіну.

Няўжо нельга пры ўваходзе ў офісы павесіць велізарную аб’яву, што аплату за мабільную сувязь касіры не прымаюць? Павесіць так, каб аб’ява адразу кідалася ў вочы?!

Дарэчы, калі стаяў у чарзе, звярнуў увагу на тое, што нягледзячы на поўдзень, людзей у філіяле было вельмі шмат. Але з шасці кас працавалі толькі тры. На абслугоўванне аднаго чалавека касір “губляла” ў сярэднім не менш за дзесяць хвілін.

«Беларусбанк» — галоўны дзяржаўны банк краіны, можна сказаць, твар банкаўскай сістэмы. Няўжо яго філіялы не могуць мець штат касіраў, каб не правакаваць чэргі? Адна жанчына ў чарзе мне так патлумачыла: што ім да людзей... Напэўна, яна мае рацыю.

**Іван РАІЦКІ.**
*Мінск.*

НАБОЛЕЛО!

## *«Остров невезения»...*

Два года назад в Заславле вел прием жителей города тогдашний глава Миноблисполкома Б.В.Батура. Мы обратились к нему с просьбой помочь организовать около микрорайона «Дехновка» остановку транспорта. Батура и председатель горисполкома С.П.Карташева обещали решить вопрос положительно, даже установили сроки. Но никто ничего не делал. Тогда жители поселка обратились с письмом к Карташевой, и она еще раз пообещала сделать остановку. На этот раз к весне.

Уже лето заканчивается, а остановки как не было, так и нет. Скажите, кому верить?

8—9 сентября в нашем городе будет проходить День письменности. На благоустройство города выделены средства. Только вот почему-то все благоустройство ведется в центре, а мы, как всегда, забыты, наш микрорайон как «остров невезения». Администрация города не обращает внимания на поселок: остановка городского автобуса в аварийном состоянии, присесть негде, мусор не убирается, дороги ужасные, тротуаров нет, детские площадки возле домов, освещение отсутствует, территория не обкашивается...

Очень обидно и досадно. Ведь мы такие же люди, как и все, исправно оплачиваем коммунальные услуги, платим налоги. Нам, жителям Дехновки, хочется верить, что, может, когда-нибудь с чьей-то помощью наконец-то власти обратят внимание и на наш поселок.

С большим уважением к «Народной Воле» и по поручению жителей микрорайона «Дехновка» —

**П.Е.ТЕТЕРИЧ, инвалид 2-й группы.**
*г.Заславль.*

ДАЛЁКАЕ—БЛІЗКАЕ

# Падаткі



Калі скончылася вайна, мне было восем гадоў. Жыццё ў Здудзічах (вёска, дзе я жыў, знаходзіцца недалёка ад Парычаў, што ў Магілёўскай вобласці) патрошку наладжвалася, людзі сталі прыходзіць у сябе. Праблем многа? Нічога, вырашым. Няма на чым араць? Самі запражомся.

І вось да самага гарызонту толькі і відаць, як каманды чалавек па дзевяць снуюць туды-сюды. Цягнуць плуг адны жанчыны, а за плугам — мужчына, і той звычайна інвалід. Аруць на сабе і свае прысядзібныя соткі, і калгаснае поле.

За работу на калгаснай гаспадарцы ставілі палачкі. Адна палачка — працадзень, а іх трэба адпрацаваць за год дзвесце сорак. Аплаты — ніякай. Іншы год, праўда, дадуць грамаў па 50—100 жыта на працадзень — і ўсё.

Памятаю, як гуляем мы, дзеці, каля калгаснай канторы, а тут выходзіць старшыня калгаса. Акінуў нас вокам, кліча мяне ў кантору. Дае мне хімічны аловак, кладзе нейкія квіткі і кажа: “Распішыся вось тут і тут за маці”. Я ўзяў аловак і пішу, дзе ён паказаў: “за маці”. Ён падскочыў: “Што ты пішаш, балбес?! Вось тут стаў “за” і распісвайся”. Я напісаў “за”, неяк распісаўся, паправіў папярэдні запіс і пайшоў далей гуляць з сябрамі. (Трэба сказаць, што на сяле палова людзей, а то і большая, былі непісьменнымі, і часта распісвацца за іх давалі тым, хто ўмеў гэта рабіць, таму і ставілі подпіс “за кагосьці”.)

Дома я сказаў маці, што старшыня заставіў мяне распісацца на квітках. А за што — не ведаю. Маці пайшла да рахункавода, які жыў побач і знаходзіўся ў сямідзясятым калене сваяцтва з намі. Той сказаў, што старшыня адпісаў зароблены ў калгасе бульбу і жыта за падатак.

Але ж гэтага бывала мала, і даводзілася плаціць яшчэ і грашовы падатак, здаваць і малако, і яйкі, і бульбу, зерне, мяса і скуру...

Мясны і скураны падатак збіралі так. Калі ў людзей цяліліся каровы, упраўленцы калгаса абыходзілі двары і запісвалі — “кантрактавалі” — цялят. Пасля гэтага гаспадар ужо не мог ні прадаць, ні зарэзаць цяля на мяса. Яго трэба было здаць дзяржаве, як толькі падрасце. Здавалі звычайна напрыканцы жніўня. Дзяржава адпісвала падатак на скуру і мяса, а за астатнюю вагу плацілі капейкі.

Было яшчэ і самаабкладанне. Прыязджае старшыня ці сакратар сельсавета, збірае калгасны сход, на якім выступае старшыня калгаса і кажа: “Нам трэба прыняць самаабкладанне. Гэта дваццаць рублёў з двара. Галасуем. Хто супраць? Хто за? Аднагалосна. Прынята аднагалосна”, — хоць ніхто і не падымаў рукі.

Увогуле падаткамі абкладалі, як паляўнічыя чырвонымі сцяжкамі ваўкоў. А збіралі падаткі агенты.

Як толькі агент з’яўляўся ў адным канцы вёскі, пра гэта ўжо было вядома ў другім, і тыя, хто не заплаціў падаткі і каму не было чым іх пагасіць, замыкалі хаты і знікалі на сваім полі. А калі не паспявалі знікнуць, у ход ішлі просьбы, мольбы, сварка, скварка, жарты...

Вось заходзіць агент у хату да адной жанчыны, Ульяны Гарасімавай (так звалі яе па мужу), а ў хаце — хоць шаром пакаці. Толькі яна сама, дзве дачкі і кот. Агент да яе: “Чаму не здаеш мяса?” — і чуе ў адказ: “А дзе я вазьму? Вось бяры дачок і ката. Дзеці, збірайцеся і ідзіце з гэтым дзядзькам. Ён вас завязе ў раён на мяса”. (Ульяна сама распавядала пра гэта суседзям, усе доўга смяяліся, і, як бачыце, запомнілася і мне.)

Пакуль агент праходзіў праз вёску, больш заможныя людзі яго запрашалі і паснедаць, і паабедаць. І, бывала, да канца дня ён забываў і хто ён, і дзе. Але ж ніколі не было чуваць, каб хто-небудзь паквапіўся на ягоны партфель.

Агенты бачылі, у якой галечы, голадзе жывуць людзі, і не ва ўсіх хапала сілы ўтрымлівацца на гэтай пасадзе. Разумелі, што людзям проста няма чым плаціць, а нядоімка толькі накоплівaецца... Але ж разумелі гэта не ўсе.

Жыла ў нашай вёсцы жанчына з маленькай дачкой, Агапа. З дапамогай суседзяў ёй адкапалі маленькі нямецкі бліндаж і склалі хатку прыкладна 3,5 на 3,5. “Врамянку”, як іх называлі. Прыставілі да задняй тарцавой сцяны усялякіх жэрдачак, яна іх уцяпліла саломай. Потым, калі Агапа абзавялася кароўкай, дык у гэты куток яе і пасяліла. Я гавару “кароўка”, бо яна насамрэч была невялікай.

Агапа штодзённа працавала ў калгасе, атрымліваючы палачкі-працадні, але выплаціць імі падаткі аднойчы так і не змагла. А дапамагчы не было каму. Тады агент прывёў старшыню калгаса і некалькі ўпраўленцаў з ім, тыя накінулі вяроўку на рогі кароўкі, забралі яе і адвялі на калгасны двор. Жанчына, як убачыла гэта, аслупянела, яе хапіў нейкі нервовы ўдар, яна ўся закалацілася, рукі, у локцях сагнутыя, выцягнула ўперад, стала і нешта гаворыць напаўголасу. І так яна стаяла каля сваёй хаткі на дажджы, на марозе, і ў час летняй спёкі многія гады — толькі што хто-небудзь хоць калі накіне на яе старую адзежыну...

Не ведаю, ці ела яна што, ці спала. Мы, дзеці, спачатку баяліся хадзіць каля яе і пераходзілі вуліцу на другі бок. Гады ішлі, раслі мы, расла і яе дачка, — а яна ўсё стаяла каля сваёй хаткі, калацілася і нешта шаптала.

**Леанід Рыгоравіч БАСТУНЕЦ, жыхар Мінска.**

ВАС ЦІКАВІЦЬ...

## *Расія прызнала, што не справіцца без імпартнай бульбы*

**Чуў, што быццам бы Расія адступіла і перагледзела спіс прадуктаў, якія забаронена ўвозіць з Еўропы. Ці так гэта? І што гэта за імпартныя прадукты, без якіх Расіі не абысціся?**

**А.Баран, Мінск.**

Так, Расія выключыла з пераліку тавараў, забароненых да ўвозу з краін ЕС, ЗША, Канады, Нарвегіі, Канады і Аўстраліі, малькоў ласося і стронгі, насенне бульбы, безлактознае малако, цыбулю-сявок, біялагічна актыўныя дабаўкі (БАДы) і вітаміны. Як піша расійская газета «Ведомости», прэм’ер-міністр Дзмітрый Мядзведзеў падпісаў адпаведную пастанову 20 жніўня.

Пад забарону гэтыя тавары трапілі на пачатку месяца разам з іншымі прадуктамі харчавання і сыравінай. Аднак многія расійскія вытворцы заявілі, што засталіся фактычна без матэрыялу для вытворчасці ў Расіі. Напрыклад, Рыбны саюз сцвярджаў: з-за немагчымасці завезці ў Расію пасадачны матэрыял для вырошчвання атлантычнага ласося, пачынаючы з 2016 года, расійскія спажыўцы могуць застацца без айчыннага ласося, якім сёння замяшчаецца імпартны аналаг.

